# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 11 (472) | ГОД X | 14 САКАВІКА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.




Моладзь дубінскай СПР у час занятка́ў.

УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК САКРАТАР ГП БГКТ

## ДАСЯГНЕННІ МІНУЛАГА ГОДА

Закончылася падсумаванне працы БГКТ у мінулым 1964 годзе. Немагчыма пераказаць змест звыш сорака старонкавай справаздачы праўленняў аддзелаў і Галоўнага Праўлення нашага таварыства. Ствараецца неабходнасць кароткага паінфармавання чытачоў аб асноўных дасягненнях.

31.XII.1964 года БГКТ налічвала 4646 членаў згуртаваных у 155 гуртках. Падзел гэтых лікаў на паасобныя аддзелы выглядаў наступна:

| № | аддзел | лік членаў | лік гурт. | № | аддзел | лік членаў | лік гурт. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Беластоцкі | 749 | 1 | 5. | Гайнаўскі | 1369 | 48 |
| 2. | Бельскі | 1353 | 43 | 6. | Мілейчыцкі | 327 | 17 |
| 3. | Варшаўскі | 174 | 1 | 7. | Міхалоўскі | 243 | 17 |
| 4. | Дуброўскі | 103 | 5 | 8. | Сакольскі | 328 | 23 |

Як паказвае табліца найбольшы лік членаў маюць праўленні аддзелаў у Гайнаўцы і Бельску. Аднак гэта яшчэ не паказчык добрай працы. Часта колькасны ўзрост гурткоў без адначасовага павелічэння актыву абніжае іх працу. У мінулым годзе, напрыклад, актыў аддзелаў БГКТ выязджаў да гурткоў 140 разоў. Найбольшая колькасць гэтых выездаў зроблена ў Гайнаўцы, а найактыўнейшымі членамі аказаліся тут таварышы: Віктар Бура, Васіль Дзун, Аляксандр Іванюк, Васіль Сакоўскі і іншыя. Амаль такую ж колькасць выездаў адзначана ў Мілейчыцкім аддзеле. Тут ізноў найбольш актыўнымі былі Сяргей Крэйза, Анатоль Касцюк, Іван Вішанка. У іншых аддзелах неабходна адзначыць такіх актывістаў, як таварыша Сяргея Аверчука, Івана Кіндзюка, К. Канапчука.

Незалежна ад аддзелаў шмат працы выканаў актыў Галоўнага Праўлення. Сярод 38 яго членаў 28 асоб уваходзіла ў склад розных камісій і творчых аб'яднанняў таварыства. Асаблівай актыўнасцю выказаліся таварышы Аляксандр Баршчэўскі, Вінцук Склубоўскі, Віктар Швед, Сакрат Яновіч, а наш грамадскі старшыня Міхась Хмялеўскі браў у мінулым годзе ўдзел у звыш васьмідзесяці выездах і пасяджэннях. Вялікую працу правялі супрацоўнічаючыя з намі студэнты Беластоцкай Медыцынскай Акадэміі ў выніку арганізавання так зв. «белых нядзель», якія правялі баданні 1282 жыхароў нашых вёсак.

(Працяг на стар. 5)

## ВУЧЫМ ПА-НОВАМУ

«Вучым — па-новаму» — заявілі настаўнікі пачатковай школы ў Дубінах. Заявілі і пачалі вучыць.

Новыя заданні, якія ставіць перад нашай школай жыццё, патрабуюць новых метадаў навучання і выхавання. Адным з такіх метадаў з'яўляецца праца ў калектывах, адрачэння з традыцыйнай пабудовы ўрока, падзел класа на калектывы, якім даецца паасобныя заданні да супольнага вырашэння, а затым супольная з настаўнікам абмяркоўка гэтых вырашэнняў.

Новыя метады прывучаюць дзяцей да самастойнай працы, да самастойнага вырашэння розных праблем, спрыяюць глыбейшаму засваенню ведаў, развіваюць інтэлектуальныя здольнасці вучняў.

Для новых метадаў навучання, якім чужы так званы ў нас «вербалізм» (злоўжыванне перавагі слоўных форм у падачы матэрыялу навучання), якія абапіраюцца перад усім на эксперыменце, на вопыце самога вучня, а не на словах настаўніка, для гэтых новых метадаў патрэбная шырокая база навучальных дапаможнікаў, рознага роду вучнёўскіх майстэрняў і г.д. Такую базу стварыла сабе дубінская школа. Хопіць зайсці ў залу, якая тут называецца «класапрацоўняй біялогіі». Можна тут знайсці ўсё, што патрэбна, каб дзеці ўласціва маглі зразумець з'явы жывога свету: экземпляры розных жывёл, акварыумы з рыбамі і іншымі вадзянымі арганізмамі, чучалы птушак, мікраскопы да назірання мікраарганізмаў і мноства розных рысункаў. Падобныя «класаапрацоўкі» будуць неўзабаве створаны для навучання беларускай і рускай моў. Найбольшай, аднак, папулярнасцю сярод вучняў цешацца ўрокі, на якіх дэманструюцца вучням розныя кінафільмы. Кінематаграфічную апаратуру школа атрымала як падарунак ад Цэнтралі асветных кінафільмаў у Беластоку, а кінафільмы атрымлівае з Цэнтралі забеспячэння школ (Цэзас). Такім чынам многія ўрокі ў дубінскай шко-

(Працяг на стар. 5)



Танцавальная пара: Оля Андрэюк і Янка Крупа. Ніхто не дадумаўся б, што гадзіну таму назад яны супольна выцягвалі машыну са снегу, каб толькі дабрацца ў вёску Пясчанікі. (Чытай на стар. 3 «1000 разоў «Лявоніха»).



# Лейпцыгскі юбілей

**У гэтым годзе горад святкуе 800 год свайго існавання і лейпцыгскіх кірмашоў.**

У дзень адкрыцця веснавога кірмаша над Лейпцыгам расшалелася завіруха, якой не памятаюць найстарэйшыя жыхары горада. За адзін дзень насыпала пласт снегу ў 35 см таўшчынёй, а пры моцным ветры гэта азначала паўтараметровыя гурбы. Непрызвычаены да такога снегападу Лейпцыг быў поўнасцю спаралізаваны. Аўтамашыны пасоўваліся як чарапахі, па аўтастрадзе на Берлін нельга было праехаць, а аэрадром не мог прыняць ні адзін самалёт. Я даведаўся аб усім гэтым, седзячы ў рэстаране на берлінскім аэрадроме, бо іменна адсюль я павінен быў ляцець самалётам, прызначаным для польскай урадавай дэлегацыі, на ўрачыстае адкрыццё веснавога лейпцыгскага кірмаша. Аднак надвор'е ў Берліне не было лепшым, і самалёт, пакружыўшыся паўтары гадзіны над аэрадромам і не забраўшы акрэдытаваных журналістаў, паляцеў у бок Лейпцыга, але прызямліўся аж у Эрфурце. Падобны лёс мела дэлегацыя СССР, а дэлегацыя Чэхаславакіі, якая ляцела меншым самалётам, не магла прызямліцца нават у Эрфурце, а вымушана была вярнуцца ў Прагу. З-за капрызаў пагоды Ваш карэспандэнт спазніўся на афіцыяльную ўрачыстасць адкрыцця кірмаша, якая адбылася ў новым будынку опернага тэатру. Аднак няма патрэбы пісаць справаздачу з афіцыяльнага адкрыцця, апісаць юбілейныя ўрачыстасці. Кірмаш аказаўся дастойным лейпцыгскага юбілею. Веліч яго можа акрэсліць цэлы мільён экспанатаў, расстаўленых на плошчы 340 тыс. кв. метраў (веснавы познаньскі кірмаш займае плошчу 56 тыс. кв. метраў). Экспанаты прысланы 75-цю дзяржавамі — ад Кубы да Японіі і ад Нарвегіі да Танзаніі. Якія экспанаты? Усё: — ад вугалю і коранеплодаў да матэматычных машын, электронных мікраскопаў і атамных электрастанцый.

Цяпер міжнародныя кірмашы перажываюць перыяд эвалюцыі: яны перастаюць быць выстаўкамі дасягненняў паасобных краін, а становяцца ўсё больш гандлёвым мерапрыемствам. Такую тэндэнцыю можна было ўжо заўважыць у мінулым годзе ў Познані, а пасля ў Брне (Чэхаславакія) і ў Плоўдзіве (Балгарыя). У Лейпцыгу розныя фабрыкі паказалі перш за ўсё тое, што могуць адразу прадаць, а прадстаўнікі гандлю прыехалі, каб толькі разгледзецца і падрыхтаваць грунт да далейшых дагавораў. Другая тэндэнцыя, характэрная для лейпцыгскага кірмаша, — гэта асабліваe месца тэхнікі. Машыны і прамысловае абсталяванне былі асновай гандлёвых дагавораў. Вельмі добра прадставілі сябе ў Лейпцыгу 11 сацыялістычных краін. Савецкі павільён займаў 13 тыс. кв. метраў, польскі і чэхаславацкі павільёны — па 8 тыс. метраў. У савецкім павільёне ўвагу прыцягвалі на сябе электроннае і электратэхнічнае абсталяванне, камплектныя прамысловыя аб'екты, вялікія грузавыя аўтамашыны, з якіх, напр. «Белаз» (з Мінскага аўтазавода) быў 27-тонны. Большага грузавіка не было ў Лейпцыгу. Гаспадары падрыхтавалі прыгожую экспазіцыю капалак і транспарцёраў для буравугальных шахт і будаўніцтва, а таксама вырабаў хімічнай прамысловасці.

Польшча арганізавала таксама і выключна гандлёвы паказ. Галоўным таварам былі камплектныя прамысловыя аб'екты: электрастанцыі, плавільныя цэхі і фабрыкі фарб, а таксама электрычныя маторы і матэматычныя машыны «Одра».

Нельга не звярнуць увагі на палітычныя аспекты лейпцыгскага кірмаша. Кірмаш адбываўся якраз у час моцнай нагонкі ўраду ФРГ на ГДР у сувязі з візітам В. Ульбрыхта ў Аб'яднаную Арабскую Рэспубліку. І іменна ў гэты самы момант у Лейпцыгу было каля 700 заходнегерманскіх фірм, у тым ліку такія вялікія, як фірма Крупа ці Рэйнметал. Несумненна, гэта быў непасрэдны адказ гаспадарчых колаў ФРГ свайму ўраду, сцвярджаючы аб тым, што нельга не заўважаць Германскую Дэмакратычную Рэспубліку.

**УЛ ЛАЗІНСКІ**




## 21. III. Пленум ГП БГКТ

На апошнім пасяджэнні прэзідыума Галоўнага праўлення вынесена пастанова склікаць на дзень 21 сакавіка пленум ГП прысвечанае задачам БГКТ у выбарчай кампаніі да сейму і рад нарадовых.

Прэзідыум абмяркоўваў таксама выкананне бюджэту за 1964 год, некаторыя арганізацыйныя справы а таксама змест календара на 1966 год. 26 лютага 1966 года беларускае таварыства і рэдакцыя «Нівы» будуць адзначаць 10-ую гадавіну існавання. У сувязі з гэтым падрыхтаваныя матэрыялы да календара будуць паказваць дасягненні беларускай арганізацыі ў Польшчы.

**М. Х.**



**На здымку: заняткі ў гуртку па вывучэнню польскай мовы на Мінскім трактарным заводзе (ся)**




29 студзеня г.г. у заходнебеларускім мястэчку Пінску адбылася ўрачыстая закладка трыкатажнага камбіната. Будзе ён адным з найбольшых у Еўропе. Заканчэннне яго будовы прадбачана на 1968 год. Планаваная гадавая прадукцыя — 12 мільёнаў касцюмаў, кофтачак, джэмпераў.

У Бабруйску на берагах Бярэзіны будуецца рачны порт. Будзе ён мець вялікае значэнне для транспарту грузаў з цэнтральных раёнаў Беларусі.

У Ваўкавыску пачата будаўніцтва вялікага кансервавага завода.

На прылаўках магазінаў Беларусі паявілася новая тэле- і радыёапаратура з маркай 1965 года. Сярод іх — тэлерадыёла «Беларусь — 7». Гэта камбінаваны апарат — тэлевізар на 12 каналаў, радыёпрыёмнік і стэрэафанічны прайгравальнік. Паявіліся таксама ў продажы стэрэафанічныя радыёлы «Мінск — 65», эстэтычныя і салідныя. Сваёй дасканаласцю значна перавышаюць яны радыёлы вядомай заходненямецкай фірмы «Філіпс».

Тэкстыльшчыкі гродзенскага тонкасуконнага камбіната раўняюцца да ўзроўню лепшых сусветных стандартаў, павышаюць свае тэхнічныя веды ў спецыяльных гуртках. Слухачы іх атрымаюць права ставіць на сваёй прадукцыі асабістую марку.

Сорак год існуе ў Слоніме гістарычна - краязнаўчы музей створаны Язэпам Стаброўскім. У ім знаходзіцца калекцыя вырабаў каменнага веку; мінералагічная, этнаграфічная і нумізматычная калекцыі, этнаграфічныя матэрыялы і іншыя знаходкі. Я. Стаброўскаму ўжо 94 гады.

Новы від кансерваў — «Хатняя бульба» выпускаюць беларускія кулінары. Гэта навінка прыгатаўляецца са свежай бульбы, морквы, белых карэнняў і цыбулі з дабаўленнем тлушчаў, тамату, вострых прыпраў.

Мода на кавярні ў вёсках не толькі ў нас. Беларуская вёска Шаркаўшчына ў Міёрскім раёне таксама мае сваю кавярню. Тут апрача кавы і музыкі ёсць яблыкі, цукеркі, піражнае. Выступае часта самадзейная эстрада.

Вывезці на кожны гектар пад яравыя па 25 тон мясцовых угнаенняў — такую задачу паставілі працаўнікі сельскагаспадарчай арцелі «Першамай» у Драгічынскім раёне. Нарыхтавана ўжо больш як 12 тысяч тон торфагроевых кампостаў.

(ся)

# ЗАКЛІКАЕМ ДА СПАБОРНІЦТВА

Мілейчыцкі гурток БГКТ (Сямяціцкі павет) зараз налічвае 93 члены. Гэта самы найбольшы гурток у павеце. Я, як старшыня гэтага гуртка, хацеў бы звярнуць асаблівую ўвагу на яго арганізацыйную працу. Згодна з апрацаваным планам працы наш гурток праводзіць рэгулярна сходы. У месяцы студзені гэтага года праведзена два сходы, а ў лютым — адзін. На гэтых сходах абмяркоўваліся арганізацыйныя справы, павелічэнне колькасці членаў таварыства, аплачванне членскіх складчын, падпіска на часопіс «Ніва», продаж календароў і іншых выданняў Таварыства. Калі разыходзіцца аб рост членаў таварыства, трэба з задаваленнем сцвердзіць, што ў месяцы студзені г.г. прынята ў рады таварыства 35 новых членаў. Гэты факт сведчыць аб узрастаючай ролі і аўтарытэце таварыства сярод беларускага насельніцтва. Трэба неабходна падкрэсліць такі факт, што сярод новых членаў таварыства знайшліся члены польскай нацыянальнасці. Гэта сведчыць аб дружбе і цесным супрацоўніцтве паміж палякамі і беларусамі ў розных галінах грамадскага і культурна-асветнага жыцця ў мешаным асяроддзі.

(Працяг на стар. 5)



Георгій Скарына.

# „ЛЮДЗЯМ ПРОС

**Уладзімір Караткевіч, пісьменнік**

(475 год з дня нараджэння Георгія Скарыны, выдатнага дзеяча беларускай культуры, вучонага, заснавальніка кнігадрукавання ў Беларусі і Літве)

Канец пятнаццатага — першая палавіна шаснаццатага стагоддзя.

У Францыі будуюць замак Шэнано паблізу Блуа. Ствараюць свае творы, прасякнутыя ідэямі прагрэсу, паэмы Кляман Маро і П'ер Рансар, працуе над раманам «Гарганцюа і Пантагруэль» Франсуа Рабле.

У Германіі пакутліва шукае навуковую праўду Парацэльс, Лютэр стварае свае «дзевяноста пяць тэзісаў», а паветра напружана атмасферай Сялянскай вайны, ідэямі Тамаса Мюнцера.

У Англіі Т. Мор марыць аб дзяржаве справядлівасці, але яшчэ не нарадзіліся на свет бацькі Шэкспіра.

У Іспаніі зараджаецца гарэзлівы раман.

Свежы вецер пераносіцца над светам. Адраджаецца разуменне дэмакратыі. Людзі прагна спрачаюцца аб філасофіі, літаратуры, этыцы. Людзі прачнуліся, яны бачаць прыгажосць зямлі і самых сябе.

«Мы народжаны не для жывёльнай долі
А к доблесці і ведам народжаны».

Мацнее і пашыраецца разуменне слова «гуманізм». Але адразу ж паяўляюцца і яго шматлікія ворагі. Пачынаецца бязлітаснае праследванне думкі. Цемрашальства люта супраціўляецца руху чалавечага духу ўперад. Небяспечна нават «Біблія», няхай нават малазразумелая, на лацінскай і стараславянскай мовах. Каб не сапсавацца ў розуме і веры, яе трэба слухаць толькі з вуснаў свяшчэнніка і з яго каментарыямі.

Пагалоўная бязграматнасць. Голад. Прыгнечанне. Фанатызм. Маравая пошасць. Чалавек няшчасны, як ніколі. І толькі палацы і саборы ўзносяцца да неба сярод убогіх хацінак.

Жудасная рэчаіснасць, і з ёю не маглі згадзіцца найлепшыя розумы гэтага часу. Не мог з ёю пагадзіцца і чалавек, які нарадзіўся ў гэтыя дні, у 1490 годзе, на беларускай зямлі, у Полацку, чалавек, увесь жыццёвы шлях якога быў шляхам барацьбы за «доблесць і веды», за ўмацаванне каштоўнасці чалавечай асобы ў свеце, за шчасце ўсіх людзей у сваёй роднай краіне.

Георгій Скарына — першадрукар не толькі беларускай, але і ўсёй усходне-славянскай кнігі. Вучоны, асветнік, змагар, нястрымна прагнучы ведаў чалавек.

Жыццё ў сучаснай яму Беларусі было адносна яшчэ нядрэнным. Прыгоннае права яшчэ не зусім скавала народ (толькі праз 98 год пасля яго нараджэння яно было канчаткова аформлена юрыдычна). Ёсць яшчэ свабода сумлення (няхай абмежаваная), ёсць мова, ёсць магчымасць адысці ад дрэннага феадала на вольныя землі. Але дзень хіліцца да захаду, і, усё роўна як бачучы гэта, сын заможнага купца шукае ведаў, святла, не можа без згіды думаць аб наступаючай ночы... Жадае барацьбы з ёю.

Ён — сын стагоддзя. Культура стагоддзя — культура, афарбавана рэлігіяй. І гэты чалавек хоча, каб людзі свядома разбіраліся ў жыцці, а не зубрылі, як папугаі, усялякія догмы на незразумелай для іх мове. «Бог пусціў мяне ў свет з гэтай мовай», і гэтая жывая мова павінна стацца мовай кнігі. Гэтай, якой яшчэ няма, якая зараз неймаверна дарагая, знявечана перапісчыкамі, незразумелая.

Кнігадрукаванне, «Мастацтва над мастацтвам, навука над навукамі» (Гутенберг), існуе ў Германіі толькі 50

Сельская гаспадарка без таямніц

# Простае і геніяльнае

Гавораць, што найпрасцейшыя прылады з'яўляюцца найбольш геніяльнымі. Яны танныя, іх лёгка зрабіць у кожнай гаспадарцы. Напрыклад, валока. Гэта можа быць некалькі драўляных бэлек, счэпленых ланцугом або некалькі старых абручоў са старых колаў. У якасці валокі можна выкарыстаць барану, перавярнуўшы яе ўверх нагамі. Можна прыняць у якасці валокі і іншыя прылады.

Гутарка ідзе аб найпрасцейшай сельскагаспадарчай прыладзе, якая мае, бадай, найважнейшае значэнне ў час вясенніх палявых работ. Вагу праблемы павялічвае яшчэ і факт, што не ўсе сяляне Беласточчыны прызнаюць валкаванне адным з найлепшых спосабаў павелічэння вільгаці ў глебе, паляпшэння яе структуры, прысцяшэння нагрэву зямлі, павелічэння колькасці паветра ў глебе і раскладу арганічных частак.

Набліжаецца сезон палявых работ. Трэба падрыхтаваць каля 200 тыс. гектараў пад ярыну, каля 190 тыс. гектараў — пад бульбу, каля 13 тыс. гектараў — пад цукровыя буракі і г.д.

Як толькі выгляне вясенняе сонца, глеба ўжо патрабуе апекі. Іменна валкаванне з'яўляецца першай і вельмі патрэбнай працай. Пачынаем палявыя работы тады, калі глеба ўжо не размазваецца, а рассыпаецца. Валока ўзрушвае тонкі пласт зямлі, разрываючы тонкія поры (капіляры), па якіх падыходзіць уверх вада. Такім чынам стрымліваем веснавое параванне, якое магло б давесці да поўнага высушэння глебы і ў такіх умовах насенне не заўсёды прарастае. Вільготнасць глебы мае вялікі ўплыў на развіццё і вегетацыю раслін, а гэтым самым і на ўраджай. Вядома, палявыя работы вясной не канчаюцца на валкаванні. Найчасцей праз 7 — 10 дзён трэба баранаваць. Калі пасля валкавання пачнуцца зацяжныя дажджы, баранаваць трэба раней, каб не дапусціць да ўтварэння коркі.

Трэба таксама звярнуць увагу на факт, што вельмі часта сяляне прымяняюць вясною культыватары са спружынавымі лапамі. Гэта шкоднае дзеянне. Культыватары са спружынавымі зубамі трэба прымяняць восенню, а вясною толькі культыватары з цвёрдымі або паўцвёрдымі зубамі.

Некаторыя здагадлівыя сяляне самі робяць барану-валоку. Гэта вельмі простая, але патрэбная прылада. На першай бэльцы валокі ўбіваем кароткія жалезныя зубы, а наступныя бэлькі маюць гладкую паверхню. Такой бараной - валокай выконваем адразу дзве работы. Асабліва добра карыстацца бараной - валокай на цяжэйшых глебах, або калі па глебе з'явілася корка. Аднак валока не адыграла б тут вялікай ролі.

Пасля валкавання і баранавання далей апрацоўваем глебу — у залежнасці ад якасці глебы, надвор'я і расліны, якую будзем сеяць. Напрыклад, пад бульбу трэба будзе яшчэ ўзараць, каб прыкрыць гной. Гной пад бульбу даем пераважна вясною.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

Нашы інтэрв'ю

# БУЛЬБЯНЫЯ ДОЛАРЫ

Бульбяныя дранікі, боршч, крухмал, ну, скажам, спірт — гэта так, зразумела, але бульбяныя долары?

— Могуць быць і долары, — аўтарытэтна сцвярджае дырэктар Цэнтралі насеннай у Беластоку, інжынер Сцяпан Завадзінскі, а пасля кароткага роздуму дадае: — Можа не зусім з бульбы, але за бульбу.

— Якім чынам?

— Проста, трэба выгадаваць высокай якасці бульбу і прадаць яе.

— А многа бульбы адпраўляеце вы ў заходнія краіны.

— У прошлым годзе, а год быў, як самі памятаеце, сухі, прадалі мы звыш 25 тысяч тон бульбы.

— Ці гандлюеце вы толькі бульбай?

— Не, не толькі. Апрача бульбы прадаем за мяжой насенне розных высакаякасных траў, белай і чырвонай канюшыны, хмелевай люцэрны і другіх матыльковых. Год у нас канчаецца не ў снежні, як у календары, а ў ліпені. Вось вартасць усяго таго, што мы з Беластоцкага ваяводства прадалі за мяжу ў мінулым гаспадарчым годзе, складае суму 96 мільёнаў злотых. У бягучым гаспадарчым годзе спадзяемся купіць ад сялян Беласточчыны і адправіць за мяжу толькі сельскагаспадарчых прадуктаў, што вартасць іх перавысіць урэшце 100 мільёнаў злотых. Надта ж доўга не змаглі мы сягнуць да другой сотні мільёна.

— З якімі краінамі вы гандлюеце?

— Многа іх. Пішыце: Італія, Іспанія, Алжыр, Аргенціна, Марока, Заходняя Германія, Цэйлон і другія. Крыху высылаем у Савецкі Саюз, Чэхаславакію і ў Венгрыю.

— Вынікала б з гэтага, што ў многіх сем'ях амаль на цэлым свеце падаюць да абеду нашу бульбу.

— Бульбу нашу не толькі падаюць да абеду, але расце яна на палях, дзе лімон таннейшы ад бульбы, дзе ў лесе растуць пальмы. Гэты напрамак экспарту найбольш карысны. Шмат даражэйшая бульба, якую нашы кліенты за мяжой прызначаюць на пасадку.

— Якім гатункам бульбы даеце першынство?

— Замежныя купцы найбольш ахвотна купляюць ад нас бульбу «Бінтэ» і «Маестатік».

— Беласточчына доўга яшчэ будзе мець сельскагаспадарчы характар. Экспарт сялянскіх прадуктаў садзейнічаў бы тады гаспадарчаму развіццю нашага ваяводства. Як вы ацэньваеце перспектывы развіцця гэтага экспарту?

— Шчыра кажучы, адказ на гэтае пытанне павінен даваць хтосьці з Міністэрства замежнага гандлю. Яно непасрэдна шукае за мяжой ахвотных купіць наш тавар і падпісвае з імі гандлёвыя ўмовы. Ведаю аднак, што вельмі цяжка прабрацца нам сярод замежных канкурэнтаў. Таму патрабуем ад нашых сялян прадуктаў самай высокай якасці. Бульбінкі мусяць быць адна ў адну, як гусіныя яйкі, вядомага высакаякаснага гатунку, без следу нейкай бульбянай хваробы.

— Ці гэта аплоціцца сялянам?

— Несумненна так. Восенню на кірмашы селянін за адзін цэнтнер бульбы дастане не больш ста залатовак. Мы яму плоцім за адзін цэнтнер, у залежнасці ад гатунку бульбы, ад 150 да 350 злотых.

— Якім чынам арганізуеце вы прадукцыю на экспарт?

— Перш за ўсё праз кантрактацыю ў сялян. Маем цяпер каля 40 тысяч гектараў зямельных угоддзяў, на якіх расце штогод наш экспартны тавар.

— Калі нейкі селянін захоча падпісаць з вамі ўмову...

— Кантрактацыю на 1965 год мы ўжо закончылі. Ахвотна аднак скарыстаем з сялянскай прапановы ў наступным годзе, але толькі тады, калі ўзровень яго гаспадаркі будзе даваў моцную ўпэўненасць адносна высокай якасці прадуктаў. Да нас, для прыкладу, заходнееўрапейскія сельскагаспадарчыя даследчыя станцыі прысылаюць сваю бульбу, каб мы яе «ўзмоцнілі» ў суровым клімаце Беласточчыны. Гэтага роду гандлёвы абмен прыносіць нам асабліва высокі даход. Адначасова аднак накладае незвычайна высокую адказнасць. Не можам тады гэтага роду мерапрыемства аддаць у рукі абы якому гаспадару.

— Шчыра дзякую за гутарку.

Карыстаючы з нагоды, варта адзначыць, што Беластоцкая Цэнтраля насенная ў мінулым гаспадарчым годзе заваявала другое месца ў краіне за высокія вынікі ў развіцці экспарту сельскагаспадарчых прадуктаў. **Дала яна дзяржаве 22 мільёны чыстага даходу.** Аб добрай яе працы сведчыць некалькі ганаровых грамат, якія цяпер упрыгожваюць дырэктарскі кабінет.

Гутарыў **В. РУДЧЫК**

# ГОРА З ПАРТАЧАМІ

У 1962 годзе прэзідыум ГРН у Шудзялаве прыступіў да пабудовы млына. Думалася, што людзям будзе выгадна і даход будзе мець ГРН. На 1963 год было запланавана ў бюджэце трамады 40 тыс. зл. даходу з млына. Планаваць памагаў інструктар механік аддзела гандлю і прамысловасці ПРН у Саколцы грам. Медзяеўскі. З ім ГРН запланавала і купіла недастатковай моцы рухавік, які не змог нават рушыць камень млына. Абсталяванне ў млыне выконвала Элцкае прадпрыемства тэрэновага промыслу, якое таксама запрапанаваў грам. Медзяеўскі. Выкананая праца гэтым прадпрыемствам склала суму 120 тыс. зл. Аказалася, што ўсе абсталяванні па-партацку былі выкананы. Усё трэба было перарабляць. І пачаў іх перарабляць механік з Саколкі грам. Місевіч. Але ён таксама нічога не мог зрабіць. Пасля месяца часу ён адышоў і на яго месца прышоў спецыяліст са Старой Разадранкі грам. Хмялеўскі, які ўсё перарабляе нанава. І гэта зноў шмат каштуе. І так невядома калі млын будзе прыгодны да карыстання. Праўда, каб не заняліся былі з рознымі партачамі, дык гэты рамонт столькі не каштаваў бы і даўно быў бы зроблены млын.

**Кузьма Сцяпан**
Шудзялава

(Працяг са стар. 3)

**Ён паэт і ў гэтых прадмовах раз-пораз пераходзіць на вершы, няхай іншы раз чароўна-наіўныя, але гэтыя вершы — першыя вершы ў Беларусі, прычым не фальклорнага характару. Скарына называе чытанне «люстэркам нашага жыцця, пацехай усім маркотным», асабліва тым, хто «у бедах і немачах». У прадмовах ён стараецца даць людзям як мага больш звестак з геаграфіі, гісторыі, музыкі. Разумеючы, што ўсё гэта пахне абвінавачаннем у ерасі, ён праяўляе і дыпламатычны талент, бо гаворыць жа аб месцазнаходжанні сонца і астраноміі «Кніга Ісуса Навіна».**

**Значная частка тыража «Бібліі» прапала. Туга за радзімай пацягнула Скарыну з Прагі. Па дарозе ён заехаў у Віцэнберг, дзе прапаведваў Лютэр. Католікі абвінавацілі першадрукара ў адносінах з ім, і амаль не прысудзілі да спалення. Скарыне ўдалося апраўдацца. Кнігі ж, таму што яны былі зразумелыя ўсім і, такім чынам, былі зброяй д'ябла, спалілі.**

**Ён перанёс і гэты ўдар. Вытапталі ніву — зноў засей яе. У Вільні, у доме бургамістра Якуба Бабіча, на гэты раз на радзіме з яе прыгажосцю і беднасцю, дзе гучыць родная мова, і навокал браты, ён арганізуе новую друкарню. У хуткім часе выходзяць «Апостал» і «Малая падарожная кніжыца», усе на тым жа высокім паліграфічным узроўні і таксама прыгожа, страсна, пяшчотна і грубавата перакладзены.**

**А потым — маўчанне. Амаль губляюцца сляды. Новых кніг няма. Разарэнне. Багатым мяшчанам і выдадзенага надта хапае. Ідуць цяжкія часы. У 1580 годзе агонь паглынае дзве трэція горада і друкарню. Праз тры гады прыходзіць чума. Ноч яшчэ далёка, але на твары ўжо пачныя цені.**

**Ён зрабіў што мог. Даў суайчыннікам друкаванае слова на сваёй мове, а значыць, аснову для школы на гэтай жа мове, для асветы, для вялікай чалавечнасці. Ён пачаў адраджэнне на сваёй зямлі, ён верыў, што навука нясе патрэбныя ўсім мір і спакой. Ён лічыў, што яго кнігі не толькі грамата, але і аснова для сямі вызваленых навук, для разумення свету, якім ён ёсць. Ён быў чалавекам сярэдневякоўя, як Дантэ, якога тады ў Беларусі, акрамя яго, Скарыны, ведалі толькі адзінкі. І, у той жа час, ён быў чалавекам будучыні.**

**Жыццё яго — ланцуг пяшчасцяў і смутку. Але справу, зробленую ім, ужо нельга было задушыць ніякім гарам, ніякімі агнямі. Таму што яго кнігамі пачалося трыумфальнае шэсце кнігі па землях усходніх славян. Друкароў забівалі, друкарні палілі. Дык кнігу лёгка спаліць — два-тры ўдары крэсівам. І ўсё ж зноў і зноў грукатаў прэс друкарскага станка і на месца адной кнігі станавілася дзесяць новых.**

**1561 — Украінская перасопніцкая «Евангелія». 1562 — Беларускі «Катэхізіс» Сымона Буднага і «Евангелія» Цяпінскага, 1564 — Маскоўскі «Апостал» Івана Фёдарава. 1568 — Заблудаўскі, Беларускі «Апостал». 1570 — там жа «Псалтыр». Дзесяткі. Сотні. Тысячы. І вось ужо старонкі свецкіх кніг шалясцяць у руках людзей. У 1575 годзе Пятро Мсціславец адраджае справу Скарыны ў Вільні. Грукочуць друкарні Мамонічаў у Кутэіне, Магілёве. Што абазначае іх грукат? І, аднак, сцены замкаў і засценкаў уздрыгваюць ад яго.**

**Як і кожны сапраўдны сын сваёй зямлі, Скарына горача любіў сваю радзіму. Ён пісаў: «...Паколькі ад нараджэння звеਰы, якія ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае. Птушкі, якія лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае. Рыбы, якія плаваюць па моры і ў рэках, ведаюць ямы свае. Пчолы і ім падобныя ахоўваюць вуллі свае. Таксама і людзі, дзе нарадзіліся і выгадаваныя... да гэтага месца вялікую любоў маюць».**

**Ён жыў любоўю да ўсіх простых людзей, да ўсіх народаў і жадаў ім дабра і свету. Ён быў у шэрагу тых, хто прапаведваў і закладаў асновы вялікага братэрства на зямлі. У цёмныя дні яны падавалі руку ўсім людзям добрай волі ва ўсім свеце. Яны шукалі праўду і чалавечнасць, змагаліся за іх і гінулі, у пагібелі здабываючы перамогу. Светачы сярод галечы і цемры, першыя агні, нашы продкі, справу якіх мы прадаўжаем і вобраз якіх захоўваем у сэрцы.**

**УЛ. КАРАТКЕВІЧ**



(Працяг са стар. 1)

# ДАСЯГНЕННІ МІНУЛАГА ГОДА

У 1964 годзе Галоўнае Праўленне адбыло 2 пленарныя пасяджэнні, яго Прэзідыум — 9 пасяджэнняў, камісіі (прапаганды, культуры, асветы) — 6 пасяджэнняў. Праведзена 10 павятовых канферэнцый у аддзелах і 57 пасяджэнняў праўлення аддзелаў БГКТ, а таксама 2 курсы актыву.

У мінулым годзе апрача статутовых напрамкаў дзейнасці асноўнай праблематыкай было 20-годдзе Польскай Народнай Рэспублікі, якое дамінавала ў трох кварталах і 45-годдзе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, якое шырока адзначалася ў І-ым квартале.

Далей вяліся радыёгутаркі на беларускай мове па радыёвузлах паўднёва - ўсходняй Беласточчыны. Апрацавана 46 тэкстаў, паводле якіх прачытана 180 радыёгутарак. У гуртках БГКТ, з розных нагод, у паасобных вёсках праведзена 178 гутарак з насельніцтвам і 80 лектарскіх дакладаў. Прадэманстравана 107 кінасеансаў, на якіх прысутнічала звыш 12 тысяч асоб. Члены літаб'яднання пры ГП «Белавежа» адбылі 2 двухдзённыя семінары, у час якіх абсуджалі напрамкі далейшай працы і творы паасобных аўтараў. Яны адбылі 81 сустрэчу, на якіх прысутнічала каля 5000 асоб. Даволі шырока ўключалася БГКТ у справы асветы. Была аказана дапамога ў арганізаванні 15 розных курсаў асветы дарослых, праведзена дзве настаўніцкія канферэнцыі і некалькі сустрэч, шмат экскурсій, кінафільмаў, адзначана дзень настаўніка праз узнагароджанне найбольш актыўных з іх, віншаванні, змяшчэнне артыкулаў у органе ГП «Ніве» і гэтак далей.

Наступіла далейшае развіццё пачытнасці кніжак на беларускай мове. У васьмі бібліятэках БГКТ мелася 7910 кніжак, каля 800 чытачоў і звыш 4300 выпазычэнняў. Адчуваецца ўсюды недахоп новай мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры, а ўжо найцяжэй маюцца справы з літаратурай для дзяцей школьнага ўзросту.

Нязначным папаўненнем гэтага недахопу былі кніжныя выданні ГП БГКТ. У мінулым годзе выйшаў у накладзе 1000 экз. дадатак да «Нівы» зборнік вершаў Я. Бурша «Прамень думкі», пасля навуковы зборнік — 1500 штук і ў канцы года беларускі каляндар — 5000 штук. З прыемнасцю трэба адзначыць, што выданні гэтыя маюць вялікую папулярнасць. За два месяцы звыш 60% накладаў ужо раскальпартавана.

У мінулым годзе праведзена 13 конкурсаў. Да найбольш цікавых з іх трэба аднесці рэцытатарскі конкурс для вучняў пачатковых і сярэдніх школ арганізаваны супольна з КуратORыяй конкурс ткацтва і іншыя.

У галіне заспакаення культурных патрэб насельніцтва найбольшую працу правяла ў мінулым годзе эстрадная група «Лявоніха». Дала яна 187 канцэртаў, з якіх каля 70% выпала на нашыя вёскі, а апошнія на этнічнае пагранічча, гарады Беластоцкага ваяв. і на Альштынскае ваяводства, дзе яна канцэртавала адзін месяц жнівень у рамах культурнага абмену паміж Аддзеламі Культуры ВРН. 10.XII.64 г. эстрада выступала ў Варшаўскім тэлебачанні. Да найбольш цікавых, а адначасова грамадскіх, канцэртаў трэба залічыць выступленні ў Медыцынскай Акадэміі, Ваяводскім Праўленні ТППР і на дажынках 20-годдзя ў Беластоку.

Калектыў песні і танца даў 9 спалучаных з іншымі калектывамі канцэртаў.

У беларускім і змешаных асяроддзях працавала 60 аматарскіх калектываў. Амаль усе яны мелі сцэнічны рэпертуар на бел. мове выдадзены праз БГКТ. Як паказалі элімінацыі, узровень іх быў амаль ва ўсіх паветах раўнамерны і таму аднолькавыя месцы занялі калектывы з Альхоўкі, Вэрполя, Кашалёў, Рыбалаў і Патокі.

На заканчэнне неабходна ўспомніць пытанне супрацоўніцтва БГКТ з іншымі ўстановамі. Несумненна, што амаль усе нашыя пачынанні праводзяцца ў паразуменні з гаспадарамі данага ваяводства ці павета — радамі нарадовымі, а асабліва з іх аддзеламі рэфератамі культуры, інспектаратамі, бібліятэкамі і г. далей. Тэматычна зблiжаны яны з ТППР. З імі праводзім абмен вопытам, удзельнічаем у розных пасяджэннях, імпрэзах, супольна карыстаем з кінафільмаў, памяшканняў і іншае. Удзельнічаем у працы маладзёжных арганізацый. Напрыклад, з ЗМВ праводзім конкурсы, пасяджэнні, дапамагаем у правядзенні розных курсаў. Утрымоўваем таксама жывыя кантакты з Домам Савецкай Культуры ў Варшаве. Асабліва жывыя і карысныя кантакты ўтрымліваем з Беларускім Таварыствам культурнай сувязі з заграніцай у Мінску. Дастаткова сказаць, што ўжо некалькі гадоў атрымоўваем бясплатна звыш 160 часопісаў і газет на беларускай мове, сотні кніжак, фотавыставак аб выключнай ідэйна-мастацкай вартасці, магнітафонныя награнні, рэпертуар для аматарскіх калектываў. Маем таксама асабістыя кантакты. У мінулым годзе БГКТ наведала 11 прадстаўнікоў БССР, у тым ліку паэты М. Танк і Н. Гілевіч, навуковыя работнікі Ул. Навіцкі, П. Шуба, Верэніч, дырыгент Г. Цітовіч і іншыя.

**УЛ. ЮЗВЮК**
Сакратар ГП БГКТ



Праца ў школьнай майстэрні пад кіраўніцтвам Яўгенія Гарустовіча.

# Вучым па-новаму

(Працяг са стар. 1)

ле з нуднай неабходнасці станаўяцца проста цікавым атракцыёнам. Настаўнікі школы ў Дубінах выкарыстоўваюць і іншыя здабыткі сучаснай тэхнікі, часта праводзяць урокі пры дапамозе тэлевізара і радыё. На ўроках польскай мовы, каб паказаць, як правільна чытаюцца вялікія творы польскай літаратуры, выкарыстоўваюцца адаптар і пласцінкі, на якія награны гэтыя творы ў выкананні мастакоў польскай сцэны. Вясною школа купіць магнітафон, які таксама будзе выкарыстаны ў навучанні.

Новая тэхніка дубінскай школы служыць не толькі вучням пачатковай школы. У роўнай меры карыстае з яе дубінская моладзь. Пры школе дзейнічае маладзёжны ўніверсітэт ЗМВ, на занятках якога моладзь часта аглядае асветныя кінафільмы з дзейнасці маладзёжнага руху, з галіны сельскагаспадарчай асветы і г. д.

Ужо некалькі гадоў дзейнічае ў Дубінах Школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Вучыцца тут моладзь не толькі з Дубін, але і з іншых вёсак — Ласінкі, Чыжыкаў, Арэшкава, а нават з Гайнаўкі. Школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі яшчэ ў большай ступені чымсьці пачатковая школа абапіраецца на вопыце і практычнай працы вучняў. Для хлопцаў існуе тут добра абсталяваная майстэрня, дзе вучацца яны апрацоўкі дрэва і метала, майструючы розныя хатнія прылады. Дзяўчаты пераходзяць курс варэння і пячэння, а таксама курс кройкі і шыцця. Да гэтага школа мае тры машыны да шыцця і ўсе патрэбныя кухонныя прылады.

Пры школе ў Дубінах актыўна развіваецца мастацкая дзейнасць. Існуюць тут аж два мастацкія калектывы: адзін вучняў пачатковай школы, і другі школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Праца ў мастацкіх гуртках дае вучням многа задавальнення і прывучае іх да грамадскай дзейнасці.

Абсталяванне дубінскай школы не з'явілася само па сабе. Вялікая ў тым заслуга настаўніцкага калектыву школы (перад усім яе загадчыка Яўгенія Гарустовіча), а таксама бацькоўскага камітэта і ўсяго насельніцтва Дубін. Жыхары Дубін не староняць ад працы грамадскім чынам на карысць школы. Грамадскім чынам пабудавана тут будынак Школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, абгароджана школьны агарод, плануецца пабудаваць кухню для школы, гаспадарчы будынак і т.д. Вялікую дапамогу школе аказвае таксама сельскагаспадарчы гурток у Дубінах і спулдзельня прадукцыйная ў Бельшчызне, якія, між іншым, забяспечваюць бясплатны транспарт пры розных ініцыятывах дубінскай школы.

**УЛ. ПАЎЛЮЧУК**
Фота аўтара



У бібліятэчнай зале дубінскай школы.

# Залечыліся раны ваенных гадоў

Найстарэйшыя людзі з нашай вёскі кажуць, што вёска Малешы існуе больш-менш 150 год. Да другой сусветнай вайны жыло ў ёй 50 сем'яў, у якіх разам налічвалася 160 асоб. Нямецкая акупацыя прынесла Малешам знішчэнне і многа бяды. Многа будынкаў немцы спалілі, многіх людзей расстралялі. Пасля вызвалення ад немцаў бяда і няшчасце не скончылася. Радзімае бандыцкае падзямелле таксама дрэнна адносілася да насельніцтва нашай вёскі. Многіх банды замучылі. Многа таксама знішчылі — спалілі будынкаў. Праз нейкі час у Вышках сарганізаваўся пастарунак міліцыі, які бараніў насельніцтва, які вёў барацьбу з бандамі. Але банды «Бурага» ў той час былі сільнейшыя. Некалькі разоў яны нападалі і на міліцыю, і разбівалі пастарунак.

Як ужо ўсё супакоілася, тыя людзі, якія засталіся ў жывых, прыступілі да адбудовы сваіх хат і будынкаў. Ішлі гады. Вёска разбудоўвалася. Зараз жыве ў ёй 101 сем'яў, а ўсіх жыхароў больш як 500. Зараз у Малешах ёсць прыгожая школа-помнік 1000-годдзя Польскай дзяржавы. Паспяхова разгортвае сваю дзейнасць сельскагаспадарчы гурток, які ўжо мае многа сельскагаспадарчых машын, у тым ліку два трактары, малацільны агрэгат і млын-шрутоўнік. Сяляне добра развіваюць жывёлагадоўлю. Кожны дзень прадаюць дзяржаве блізка 1000 літраў малака. Злеўню малака пабудавалі грамадскім чынам. Пабудавалі таксама супрацьпажарны басейн, ёмкасцю ў 800.000 літраў вады. Нядаўна, пасля новага года, у хатах малешаўскіх загарэліся электрычныя лямпачкі. Электрычнае святло яшчэ больш палегчыла жыццё сялян. І так, па-маленьку ў Малешах залечваюцца раны ваенных гадоў.

**Аляксандр Клочка**
вёска Малешы

(Працяг са стар 2)

# Заклікаем да спаборніцтва

Дзякуючы добрай арганізацыі і культурна-асветнай працы нашага гуртка ўзносы членскіх складчын праходзяць вельмі добра. Дагэтуль 56 членаў нашага гуртка заплаціла членскія складчыны за год 1965 на агульную суму 672 зл., што азначае 62% аплочаных складчын. Надзеемся, што да канца сакавіка г.г. усе члены нашага гуртка заплацяць членскія складчыны за 1965 год.

На апошнім сходзе члены нашага гуртка па заклiку старшыні гуртка правялі падпіску на беларускі штотыднёвік «Ніву». На гэтым сходзе 30 членаў таварыства падпісалася на два месяцы на «Ніву»: на сакавік і красавік г.г. Падпіску на «Ніву» сарганізавана такім чынам, што на пошце выпажычана чысты блакнот і на гэтым блакноце паасобна кожнаму члену, які выразіў ахвоту падпісацца, выпісана «Ніву».

Наш гурток не толькі праводзіць арганізацыйную працу, але таксама культурна-асветную. Апрача агляду праграм мінскай і варшаўскай студыі тэлебачання, якія цешацца вялікім зацікаўленнем і папулярнасцю, плануецца правесці 5 гутарак і спатканняў з дзеячамі «грамады», адзначаючы гэтым 40-годдзе ўзнікнення «Грамады» Заклікаем іншыя гурткі Беларускага таварыства, каб за прыкладам нашага гуртка правялі ў сябе яшчэ эфектыўнейшую арганізацыйную працу ў сваіх гуртках.

Старшыня гуртка БГКТ
**Сяргей Крэйза**



ПАНЦЕЛЯЙМОН ЮР'ЕЎ

# ЗАГАДКА ВОЗЕРА ХАЙЫР

Вучоны свет усхваляваны нядаўным адкрыццём, якое мела месца ў Савецкім Саюзе, у Якуцкай вобласці. З бяспрэчнай верагоднасцю ўстаноўлена, што там, у адным з глыбокіх азёр, жыве дагістарычная жывёла, суродзічы якой даўным - даўно зніклі з твару зямлі. Гэтае адкрыццё ўскосна робіць праўдападобным і існаванне «страшыдла з Лох-Ламанда», які штогод, у летні сезон, калі ў друку наглядаецца недахоп сенсацыйнага матэрыялу, паказваецца калі не ў возеры, дык у кожным выпадку на старонках газет усяго свету.

Адкрытая ў Савецкім Саюзе жывёла адносіцца безумоўна да сям'і ІХТЫЯЗАЎРАЎ, жывародзячых паўзуноў трыясавага перыяду, якія свайго часу засялялі моры і азёры Еўропы і Азіі. Яны даходзілі, мяркуючы на падставе астанкаў выкапняў, да даўжыні 12 метраў. Найбольш вялікія экземпляры, якія сустракаліся ў Еўраазіі, мелі, у паасобных выпадках, да трыццаці метраў даўжыні. Экземпляр, адкрыты мінулым летам у возеры Хайыр — каля сямі метраў даўжыні.

Ён валодае, характэрным для гэтага класа жывёлы, доўгай шыяй і гнуткім, лускаватым, бліскучым тулавам і спрытнымі нагамі. Яго хрыбет нясе, так званыя «драконскія крыллі», — бясспрэчна астаткі крылляў, якімі валодалі вельмі далёкія продкі іхтыязаўраў.

Існаванне гэтых жывёлін у гістарычныя часы не выклікала сумнення шматлікіх аўтараў старажытнага свету. У Кітаі жывёла, паводле апісання падоона на іхтыязаўра, наглядалася ў перыяд царавання дынастыі Суй (616 год нашай эры). Аб жывым «драконе» на некалькіх старонках расказвае «Шу цзін» — «Кніга гістарычных паданняў Кітайскага народа», якая адносіцца да 600-ых гадоў да нашай эры. Шматкратныя заўвагі асоб, якія заслугоўваюць на давер, аб сустрэчах з «возерным драконам» мы знаходзім на старонках вядомай кітайскай энцыклапедыі ў трохстах тамах «Цзы чжы Тун-Цзянь», што абазначае «Усеагульнае апісанне падзей».



Удзельнік пасольства ў Кітаі Н. Г. Спафарый расказвае ў 1654 годзе, што непадалёк Пекіна жыве ў возеры — «жывы дракон, страшыдла страшэннае і д'ябальскі страхападобнае». Кітайскі вучоны геолаг Тао-Джу-чао ў 1912 годзе асабіста наглядаў «возернага дракона» ў адным з горных тыбецкіх азёраў. Ен даў яго падрабязнае апісанне. Вучоны меў пры сабе фатаграфічны апарат, аднак здымка зрабіць не паспеў, таму, што страшыдла спрытна знікла ў водах возера. Тыбецкія ламы расказваюць, што яны часта знаходзілі на беразе возера агромныя сляды пакінутыя невядомай жывёлай. Характэрна, што і ў Тыбеце гэтае страшыдла называюць «возерным духам», гэта значыць драконам.

Кітайскія міфалагічныя драконы безумоўна маюць у аснове свайго паходжання фактычны элемент. Зусім магчыма, што ў старажытныя часы на тэрыторыі Кітая яшчэ захоўвалася некаторая колькасць іхтыязаўраў, пазней загінуўшых або вынішчаных чалавекам.

Цікава зазначыць, што ў адным з артыкулаў прысвечаным у мінулым годзе папулярнай, патрыярхальнай лонданскай газетай «Таймс» «страшыдлу з Лох-Ламанда» рабілася спасылка на легенду польскага паходжання аб «Вавельскім драконе» — «смоку вавельскім». Спасылка гэтая не натолькі абсурдальна, як гэта можа паказацца на першы погляд. Візантыйскі гісторык Пракопій Кесарыйскі ўпамінае аб змеях - драконах у краіне скіфаў і амазонак, а таксама на землях паблізу сённяшняга Кракава.

Гаворачы аб драконах-іхтыязаўрах кітайскага паходжання нельга не прыгадаць тут сведчання венецыяніна Марка Пола (1254—1323), які пражыў у Кітаі звыш 20 гадоў. Ён паказаў, што «драконы» не з'яўляюцца выдумкай, а ўяўляюць сабой загадку прыроды, што шматлікія кітайцы, якія адважваліся набліжацца да месца прабывання драконаў, былі імі злоўлены, а потым з'едзены.

Інкі таксама былі пераконаны ў існаванні ў іх краіне «возерных драконаў». Як вядома ў друку было надрукавана некалькі здымкаў «страшыдла з Лох-Ламанда». Верагодным можна лічыць толькі адзін з іх — надрукаваны на старонках газеты «Стэрн»: — возерны дракон высунуў з вады сваю доўгую шыю. Для чытачоў «Нівы» мы даем перадрук гэтай вельмі рэдкай, хіба адзінай у свеце, фатаграфіі жывога іхтыязаўра.

Ёсць яшчэ шэраг здымкаў, апублікаваных на старонках гэтай жа газеты, але яны паводле думкі спецыялістаў, сфабрыкаваны фотарэпарцёрамі і таму не заслугоўваюць на давер'е. А вось расказ аднаго са сведкаў паяўлення возернага страшыдла на беразе возера Хайыр у Якуцкай вобласці. Расказвае Г. Рукосьеў, загадчык навуковай экспедыцыі Маскоўскага універсітэта. Гэта было ў кастрычніку мінулага года. Праводзячы доследы паблізу возера Хайыр вучоныя пачулі ад мясцовых жыхароў, што ў возеры жыве нейкае страшыдла і што нават найбольш смелыя людзі баяцца падыходзіць да возера. У хуткім часе ўдзельнікам экспедыцыі ўдалося двойчы наглядаць з'яўленне «страшыдла», які аказаўся буйным экземплярам іхтыязаўра, каля сямі метраў даўжыні.

Удзельнікі экспедыцыі, застаныя яго паяўленнем знянацку, не паспелі зрабіць здымкаў. Жывёла была зарысавана імі на памяць, — мы друкуем тут таксама і гэты рысунак. Вясною бягучага года да возера будзе накіравана спецыяльная навуковая экспедыцыя.

Праф. М. Рамсай, на падставе зарысовак зробленых сведкамі, правёў вопыт аднаўлення знешняга выгляду «возернага дракона» з возера Хайыр. Нельга не прызнаць яго спробы вельмі ўданай. Яго «праблемны здымак» мы таксама друкуем на старонках «Нівы».

І яшчэ адна даведка: адзіная, напісаная ў XIX стагоддзі на рускай мове, кніга аб выкапнёвых драконах, у якой расказваецца, між іншым, і аб іхтыязаўрах падобных да знойдзенага ў возеры Хайыр, — належыць пяру папулярызатара прыродазнаўства, настаўніку Гродзенскай гімназіі, беларусу, Якаву Станкевічу. Кніга называецца «Апавяданні пра выкапнёвыя жывёліны» і выдадзена выдавецтвам І. Д. Сыціна.



## Фільм пра папу Іаана XXIII

Найважнейшым італьянскім фільмам 1965 года мае быць фільмовая біяграфія папы Іаана XXIII — «...і прыйшоў Чалавек».

Фільм будзе рабіць Эрмано Ольмі — малады, высока цэнены ў Італіі і ў свеце рэжысёр, які працягвае традыцыі італьянскага неарэалізма — паказвае жыццё скромным і простым. Героі яго фільмаў («Пасада», «Нарачоныя») — людзі звычайныя, як мы ўсе. Сам Ольмі кажа: «Хачу гаварыць поўную праўду аб чалавеку». (вл)

## Самы элегантны звер

Супрацоўнікі многіх заапаркаў свету не без падстаў сцвярджаюць, што адным з самых элегантных звяроў на зямлі трэба лічыць аўстралійскага кенгуру. Ён вельмі сочыць за сваёй знешнасцю і можа гадзінамі займацца «туалетам» — расчэсваць сваю поўсць. Грэбнем жа служаць кіпцюры задніх ног.

## Савецкія любіцелі кіно

Штодзень у СССР у кіно ходзіць 11 мільёнаў гледачоў. У 1964 годзе кіно СССР прадало 3,9 мільярдаў білетаў.

За два месяцы праекцыі «Гамлета» ў двух кіно Масквы «Расія» і «Мір» пабачыла яго 2 мільёны гледачоў. (вл).




Перад тым як зноў пайсці ў порт, Дзяменцяў вырашыў паесці крыху і адпачыць. Але ледзь прылёг на дыван, як тут жа заснуў.

Дзяменцяў прачнуўся таму, што нехта падкідваў яго разам з дыванам. Схапіўся, нічога не разумеючы. Цішыня. І раптам недзе блізка-блізка зацяўкалі хуткастрэльныя зенiткі, і тады дом затросся ад серыі фугасных выбухаў.

— Парадак! — вясёла сказаў Дзяменцяў і паглядзеў на гадзіннік. — Аператыўна справіліся, таварышы лётчыкі! Дзякую вам і за тое, што разбудзілі...

Бамбардзіроўка працягвалася каля гадзіны. Было ясна, што ўдар наносіцца па порце.

Калі ўсё ўціхла, Дзяменцяў выйшаў з дому і накіраваўся ў порт. На тэрыторыі порта прыцягвалі ўвагу велізарныя ямы ад цяжкіх бомб. Гарэлі пакгаўзы. Так, лётчыкі папрацавалі здорава. Раптам Дзяменцяў каля напалавіну ўцалелага пакгаўза ўбачыў знаёмыя скрыні, тыя самыя, якія ён вывез з музея. Каля іх стаяў вартаўнік. Дзяменцяў падыйшоў да яго і спытаў:

— Чаму грузы без руху?

— Не ведаю, — адказаў вартаўнік. — Афіцэр, якога грузы, пабег у камендатуру.

Дзяменцяў даў нырца ў натоўп. Ад гэтых скрынь

46

трэба быць якнайдалей. Афіцэр, які пабег у камендатуру — гэта Брандт.

Ля ўвахода на аператыўны прычал парадку цяпер было куды менш. Салдаты ўжо не групіраваліся сваімі чортавымі тузінамі, яны стаялі і сядзелі як папала. Відавочна, знаходзячыся блізка шчаслівай магчымасці эвакуіравацца, яны вырашылі і ў час бамбардзіроўкі порту не пакідаць. А мо' быў такі загад. Але затое на тэрыторыі аператыўнага прычала цяпер нікога не прапускалі.

Дзяменцяў прабраўся да кантрольнага пункта і пачаў уважліва ўглядацца ў твары салдат.

— Дайце вашу руку, — сказаў ён аднаму з салдат, у якога твар быў барвовага колеру і чырвоныя вочы. Салдат паслухмяна працягнуў руку. Дзяменцяў намацаў пульс і лічыў яго ўдары.

— Хто ваш камандзір?

— У чым справа? — Да Дзяменцява падыйшоў нізкі лейтэнант на крывых нагах. — Што вы тут робіце з маімі салдатамі? — спытаў ён.

— Пакуль ніц, — усміхнуўся Дзяменцяў. — Але ніводзін хворы салдат на борт транспарту не трапіць.

Навокал Дзяменцява зашумеў натоўп. Салдата, якому Дзяменцяў мацаў пульс, нехта спрабаваў адцягнуць і схаваць. Але Дзяменцяў своечасова схапіў яго за руку.

Да Дзяменцява праціснуўся маёр і спытаў:

— Што здарылася? Хто вы такі?

— Я санітарны інспектар. Ёсць загад каб на транспартах не было ніводнага хворага. У Берліне не хапае толькі эпідэміі!

Маёр пачаў сцягваць пальчаткі, рыхтуючыся прыняць ад Дзяменцява дакументы.

Дзяменцяў выняў сваю паперу і працягнуў яе маёру.

Прачытаўшы паперу, маёр аддаў яе Дзяменцяву:

— Што вы знаходзіце ў гэтага салдата?

— У кожным выпадку, у яго павышаная тэмпература. Апошняе трэба праверыць.

47

— Можна вас на мінутку? — Маёр узяў Дзяменцява пад руку.

Яны выбраліся з натоўпу і падышлі да самага кантрольнага пункта, дзе іх маглі чуць толькі тры салдаты і лейтэнант, якія ахоўвалі ўваход на аператыўны прычал.

— Можаце вы выканаць маю просьбу старога салдата? — сказаў маёр. — Салдат, у якога тэмпература, — адзін з ветэранаў майго палка. Ён быў са мною яшчэ пад Масквой. Аставіць яго тут, калі полк ад'едзе, значыць, здрадзіць яго. Калі вы хоць адзін дзень былі на фронце, вы павінны мяне зразумець і зрабіць тое, аб чым я прашу; салдат павінен ад'ехаць са сваім палком.

— Не, маёр. Я такі ж салдат, як і вы, і я выконваю загад.

— Але, мабыць, на транспарце санітарны ізалятар? — не здаваўся маёр.

Дзяменцяў задумаўся і сказаў:

— Гэты транспарт я яшчэ не агледжваў. Магу вам паабяцаць толькі адно: калі на ім ёсць ізалятар, я вашага салдата прапушчу.

— Калі вы гэтага даведаецеся?

— Зараз.

Дзяменцяў накіраваўся міма кантрольнага паста, але на яго дарозе ўстаў лейтэнант. Дзяменцяў прыкмеціў у яго вачах нерашучасць. Але тут зусім нечакана ўмяшаўся маёр:

— Што вы робіце, лейтэнант? Гэта санітарны інспектар, які адказвае за ўсю эвакуацыю.

— Павінен быць пропуск, — збянтэжана сказаў лейтэнант.

— Калі ласка!

Дзяменцяў працягнуў лейтэнанту ўсё тую ж сваю паперу. Лейтэнант нават не дачытаў яе да канца, звярнуў Дзяменцяву і ўзяў пад казырок.

—Вельмі прашу вас, капітан, знайдзіце там, на прычале, палкоўніка Кунгеля і прадстаўцеся яму. Без яго дазволу я не маю права...

48

